

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№7 (ліпень), 2014

# Мяжа




**Нунцый Гуджэроці: Не бойся, беларускі народ!**

(старонка 5)

## ЗЬМЕСТ

## Бярозаўскія праваабаронцы падалі заяўку на пікет да гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі

Праваабаронцы Сяржук Русецкі і Тамара Шчапёткіна падалі заяўку на правядзенне пікета да 27 ліпеня, каб нагадаць жыхарам горада Бярозы пра Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, прынятую 24 гады таму Вярхоўным Саветам.

У пікеце запланаваны ўдзел каля 10 чалавек. Мяркуемае месца правядзення – цэнтральны стадыён горада.

Акрамя як нагадаць жыхарам пра Дэкларацыю, праваабаронцы намераны выказаць пратэст супраць размяшчэння расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Беларусі. Яны лічаць іх прысутнасць небяспекай для суверэнітэту краіны. Адной з мэтаў пікету з’яўлецца і выказванне салідарнасці з палітвязнямі і патрабаванне іх вызвалення.

Заявы на абслугоўванне пікета накіраваны ў ЖКГ, бальніцу і РАУС.

http://spring96.org/be/news/71858

## Алесь Бяляцкі ў Еўрапарламенце: Мяне вызвалілі не проста так




2 ліпеня былы палітвязень, кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» сустрэўся ў Страсбургу з Марцінам Шульцам, які быў пераабраны на пасаду прэзідэнта Еўрапейскага парламенту, з еўракамісарам па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфанам Фюле, Генеральным сакратаром СаветаЕўропы Турб'ёрнам Ягландам і старшынёй Парламенцкай асамблеі СаветаЕўропы Ан Брасэр.

У Еўрапарламенце адбылася прэс-канфэрэнцыя беларускага праваабаронцы.

Сайт Радыё Свабода цытуе з выступу **Алеся Бяляцкага**:

“Ёсць прынцыповыя патрабаванні СаветаЕўропы, яны важныя і для нас. Яны тычацца скасавання смяротнага пакарання ці мараторыя на яго. Таксама размова ідзе пра вызваленне палітвязняў і правядзенне сумленных выбараў. На гэтыя патрабаванні, на мой погляд, улады Беларусі сёння пайсці не могуць. Але, размаўляючы з уладамі Беларусі, трэба разумець, што мяне вызвалілі не проста так. Значыць, ёсць нейкая зацікаўленасць уладаў Беларусі, каб палепшыць свае стасункі з ЕС. Гэта звязана ў тым ліку і з геапалітычным становішчам у нашым рэгіёне. Эканамічны саюз, які Беларусь заключыла з Расіяй і Казахстанам, занадта наблізіў Беларусь да Расіі і прэзідэнт Лукашэнка хоча мець прастору для манеўру. Тым больш, што падзеі ва Украіне насцярожылі ўлады Беларусі адносна іх усходняга суседа. І гэтае жаданне, ці неабходнасць, паляпшэння стасункаў з ЕС, неабходнасць «вырасціць другое крыло», прымушае прэзідэнта Лукашэнку ісці на нейкія саступкі.

Але наколькі далёка ён пойдзе ў гэтых саступках – цяжка сказаць. Такія перыяды мы ўжо перажывалі. Гэта было ў 2008-2010 гадах. Але потым яны рэзка скончыліся. Зараз трэба мець цвярозую галаву і не ўпадаць у эйфарыю, што вызваленне Бяляцкага з’яўляецца значным пазітыўным крокам. Палітвязні застаюцца ў турме, рэпрэсіўная машына працуе, абмежаванні палітычных, грамадзянскіх, сацыяльных правоў застаюцца. Трэба адсочваць сітуацыю ў Беларусі і прымаць рашэнні пра кантакты на вышэйшым узроўні з Беларуссю, сыходзячы з канкрэтных крокаў па комплексным паляпшэнні сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

«Азербайджанізацыя» сітуацыі ў Беларусі – напэўна было б зусім не тое, чаго б мы хацелі. Мы лічым, што тая эканамічная дапамога, якую вельмі прагне атрымаць рэжым Лукашэнкі, павінна быць шчыльна звязаная з дапамогай грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Гэтыя рэчы павінны быць намёртва звязаныя. Інакш мы

атрымаем сітуацыю гандлю з аўтарытарным рэжымам, калі паляпшэнне эканамічнай сітуацыі не паляпшае палітычнае і грамадзянскае становішча ў краіне, а рэжым за кошт гэтага гандлю ўмацоўвае сябе, свае інструменты падаўлення свабодаў у грамадстве”.

http://spring96.org/be/news/71840

## Нунцый Гуджэроці: Не бойся, беларускі народ!

**Моцную пропаведзь прачытаў у Будславе пасланнік Ватыкана.**




Святкаванне 400-годдзя прысутнасці цудатворнага абраза Маці Божай у Будславе ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп **Клаўдыё Гуджэроці**.

У рамках урачыстасцяў у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай, якія ў гэтым годзе праходзяць 4-5 ліпеня, ноччу адбылася святая Імша, якую ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп **Клаўдыё Гуджэроці**. Імшы папярэднічала працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай з удзелам амаль 3000 паломнікаў.

Тэкст выступу нунцыя прыводзіць Catholic.by.

«*Эксцэленцыя, гэта ваша святыня, ваш народ, вы заручаны з гэтым народам, і радуйцеся гэтаму святу! Дарагія святары, калі гэтыя людзі сёння тут, - гэта значыць, што нехта паклапаціўся*

*пра іх. Кансэкраваныя асобы, вы - душа гэтага народа, якая моліцца, і яна перадалася народу ў малітве. І вы, дарагія браты і сёстры, якія напоўнілі сёння гэтую плошчу больш густа, чым зоркі на небе, - глядзіце на свет вашых свечак, бо за кожнай з іх ёсць чыёсьці сэрца*», - звярнуўся Апостальскі нунцый да прысутных біскупаў, святароў, манахаў і ўсіх вернікаў.

«*Марыя, наша Маці, мы збіраемся вакол Цябе, каб у Цябе прасіць дапамогі і Табе аддаць хвалу», - звярнуўся арцыбіскуп да Маці Божай. Успамінаючы словы першага з літургічных чытанняў, іерарх звярнуў увагу, што ў іх Бог суцяшае Марыю: «Радуйся, дачка Сіёна, весяліся і радуйся ад усяго сэрца». «Чаму ёсць патрэба суцяшаць Марыю? Бо Яна бачыць чалавечыя сэрцы і зло, якое ёсць у іх, і, як для кожнай маці, гэта для Яе вельмі балюча, - растлумачыў прадстаўнік Папы, дадаўшы, што вышэйшы знак гэтага цярпення - укрыжаваны Сын Божы*».

«*Сёння мы паўтараем: радуйся, Марыя. Радуйся, нават калі вакол слёзы, калі працягваюцца вайны, калі забіваюць людзей. Радуйся, Марыя, бо мы збіраемся тут не для таго, каб разглядаць нашы грахі, а для таго каб узірацца ў нашу будучыню, падораную нам смерцю Сына Твайго, - дадаў арцыбіскуп, - дарагія браты і сёстры, давайце сёння забудзем пра нашы грахі. Вядома, яны ёсць, але калі б Бог не стварыў нам сапраўды вялікія справы, нас бы сёння тут не было*».

Са слоў іерарха, «*кожнаму з нас Бог кажа: «Радуйся, трыумфуй, бо Я з вамі*». «*Гэта сапраўдны цуд - тое, што Бог сабраў вас тут*», - падкрэсліў Апостальскі нунцый. Таксама арцыбіскуп запэўніў вернікаў: «*Папа хацеў бы быць з вамі і папа ёсць з вамі: ён з вамі, калі вы плачаце і калі ўсміхаецеся*».

Іерарх звярнуў увагу на прадстаўлены ў літургічным чытанні вобраз Бога, які суцяшае Марыю. «*Бог суцяшае вас, беларускі народ, - адзначыў прадстаўнік Святога Айца. - Вы - народ, які, як Марыя, бачыў смерць Яе Сына*».

Згадваючы аб будслаўскім касцёле, арцыбіскуп сказаў: «*Гэты касцёл застаўся, і ў ім застаўся вобраз, з якога Маці Божая*

*дабраслаўляе свой народ. Гэты вобраз напісаны ў сэрцы кожнага з вас, і ніхто не зможа сцерці яго з вашых сэрцаў*».

«*Таксама і вы стаялі пад крыжам закатаванага Хрыста. Таксама і вы былі целам Хрыста ўкрыжаванага. Як на рукі Марыі было пакладзена мёртвае цела Ісуса - так Яго закатаванае цела лягло і на рукі беларускага народа. Колькі разоў у вашай гісторыі на вашы рукі хацелі пакласці мёртвае цела Хрыста, але пасля трох дзён вы стаялі перад Хрыстом уваскрослым*», - адзначыў арцыбіскуп.

Са слоў Апостальскага нунцыя, «*Другое запрашэнне, накіраванае Богам да Марыі, а таксама да беларускага народу - «не бойся, хай не слабнуць рукі твае».* **Не бойся, беларускі народ, нават калі цяжка, нават калі трэба плакаць - не бойся**»- заклікаў іерарх.

Арцыбіскуп дадаў, што «*страх - тое, што забівае нас: ці не канкрэтная рэчаіснасць, а страх будучыні*», ***«страх перашкаджае нашым стасункам, перашкаджае нам сустракаць адзін аднаго на вуліцах і дома», «страх часта загадвае нам не казаць тое, што мы думаем, не паказваць тое, што адчуваем», «страх кажа: заставайся на сваім месцы, там, дзе ты цяпер»***.

Згадваючы, што беларускі народ называюць найбольш цярплівым у свеце, іерарх адзначыў: «***Цярпенне - вялікая цнота, пры ўмове, што яна не ператвараецца ў недахоп павагі да сябе.*** *Сёння на вас глядзіць Маці Божая і кажа: хай не слабнуць вашы рукі.*

*І ў цябе ёсць будучыня, беларускі народ, і перад табой ёсць дарога, нават калі ты яе не бачыш, - Бог падрыхтаваў гэтую дарогу для цябе, - звярнуўся Апостальскі нунцый да вернікаў. - Твой Бог сярод цябе цяпер у гэтай Эўхарыстыі, і заступніцтва Яго Маці таксама з табой*».

«*Не бойся - гэта словы, скіраваныя да кожнага з вас, і іх крычаў* ***Ян Павел II*** *падчас свайго пантыфікату, - дадаў арцыбіскуп. -* ***Беларускі народ, не дазволь самому сабе пагасіць у табе жыццё, не стань сваім уласным катам****». Іерарх падкрэсліў, што*

*«ўвесь свет, гледзячы ў вочы гэтага народа, які будзе адчуваць сябе каханым Богам, адчуе, што Бог жыве»*.

4 ліпеня, у першы дзень урачыстасцяў у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай адбылася Імша для пілігрымаў, якія прыбылі ў Будслаў з розных дыяцэзій Беларусі. Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскі **Алег Буткевіч**.

Урачыстым уручэннем індульгенцыі 5 ліпеня 2014 года ў Нацыянальным санктуарыі завяршылася святкаванне Юбілейнага года 400-годдзя прысутнасці цудатворнага абраза Маці Божай у Будславе. Таксама яна была прысвечана ўдзячнасці Богу за кананізацыю Яна Паўла II. Імшу ўзначаліў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч**.

http://charter97.org/be/news/2014/7/6/105879/

## Брэст: улады забаранілі пікет у месцы, якое самі вызначылі для правядзення масавых акцый

У лісце за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Генадзя Барысюка падставай для адмовы пікета названы той факт, што ў гэты час у парку воінаў-інтэрнацыяналістаў у Брэсце будуць адбывацца іншыя мерапрыемствы, якія былі запланаваны раней.

Нагадаем, што заўка на правядзенне пікета супраць росту коштаў на тавары і паслугі была пададзена кіраўніком мясцовай арганізацыі Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Людмілай Дзенісенка. Акцыю планавалася правесці 17 ліпеня на працягу гадзіны (з 13.00 да 14.00) на пляцоўцы каля сцэны ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Людміла Дзенісенка здзіўлена такім падыходам гарадскіх уладаў. “Калі ў парку рэгулярна ладзяцца свае мерапрыемствы, якія нібыта замінаюць правядзенню, дык навошта ўвогуле было гарвыканкаму прымаць рашэнне, паводле якога менавіта гэтую пляцоўку прызначылі месцам, дзе павінны адбывацца масавыя акцыі?” – задалася пытаннем кіраўнік брэсцкай суполкі партыі “Справядлівы свет”. Яна не выключае магчымасці абскардзіць забарону пікета у судовых інстанцыях.

http://spring96.org/be/news/71972

# Брэст: былы рабочы ААТ "Савушкін прадукт" пазбаўлены выплат да пенсіі за сяброўства ў незлежным прафсаюзе



Актывіст незалежнага прафсаюза РЭП **Уладзімір Андрашчук** хоча праз суд дамагчыся выплаты 15 мільёнаў рублёў ад кіраўніцтва прадпрыемства "Савушкін прадукт". Гэтыя грошы кампрэсаршчык аміячных установак 6 разраду Уладзімір Андрашчук павінен быў атрымаць пры выхадзе на пенсію згодна калектыўнай дамовы. Але, прапрацаваўшы старанна ў гэтай вытворчасці 39 гадоў, выплаты не атрымаў. Гэта звязана з тым, што ў калектыўнай дамове запісана, што гэтыя грошы выплочваюцца з хадайніцтва непасрэднага начальніка работніка і са згоды генеральнага дырэктара. Андрашчук лічыць, што адмовай у выплаце кіраўніцтва адпомсціла яму за яго прынцыповую грамадзянскую пазіцыю. Ён выйшаў з афіцыйнага прафсаюзу, выступаў супраць кантрактаў і дапрацаваў да пенсіі на доўгатэрміновай дамове, хаця страчваў у заробку. Дапамагаў рабочым абараняць свае правы.

Прадстаўнік Андрашчука ў судзе **праваабаронца Уладзімір Малей** крытычна ацэньвае калектыўную дамову. Згодна з ёй, кіраўнік мае даход каля 5.5 мільярдаў рублёў у год атрымаў царскія паўнамоцтвы на прадпрыемстве, таму ўмовы гэтай дамовы доўгі час былі невядомыя працоўным. Андрашчуку паказалі яе толькі пасля ўмяшальніцтва пракуратуры. Там запісана, што пры выхадзе на пенсію работніку плаціцца 2 базавыя велічыні за кожны прапрацаваны год, за юбілеі 50 і 60 гадоў, хто прапрацаваў на вытворчасці 10 гадоў. Аказваецца матэр'яльная дапамога ў 8 базавых велічынь ветэранам працы, якія прапрацавалі 30 і кожныя наступныя 5 гадоў па 10 базавых велічынь. Нягледзячы на такія правілы, самы

старэйшы і высокакваліфікаваны работнік нічога гэтага не атрымаў.

Кіраўнік Брэсцкага абласнога прафсаюза РЭП Зінаіда Міхнюк упэўнена, што гэта зроблена для навукі ўсім работнікам: будзеце пратэставаць, патрабаваць -- нічога не атрымаеце.

http://spring96.org/be/news/71984

## Касацыйная скарга бярозаўскіх праваабаронцаў засталася без задавальнення

14 ліпеня адбыўся разгляд касацыйнай скаргі бярозаўскіх праваабаронцаў **Тамары Шчапёткінай і Сяржука Русецкага**, а атаксама грамадскай актывісткі **Таццяны Тарасевіч** у Брэсцкім абласным судзе. Заяўнікі прасілі адмяніць рашэнне суда Бярозаўскага раёна, які прызнаў забарону пікету 25 сакавіка законнай, і накіраваць справу на новы разгляд у суд першай інстанцыі іншаму суддзі.

Але ў абласным судзе не ўбачылі падставаў для адмены рашэння суда Бярозаўскага раёна.

Па словах праваабаронцаў, цягнуўся працэс агулам каля 10 хвілін. Суддзю Алену Хоцька, якая вяла працэс, не зацікавіла паўторная прапанова з боку праваабаронцаў правесці лінгвістычную экспертызу наконт адной з мэтаў пікету: “выказаць пратэст супраць уводу расійскіх войск ва Украіну”, з-за якой быў адкліканы дазвол райвыканкама на акцыю. Па словах юрыста райвыканкама Яўгена Кашталяна, у гэтым пункце хтосці з супрацоўнікаў райвыканкама убачыў экстрэмізм. Суддзю Бярозаўскага раёна гэта Алену Нямкову таксама не цікавіла.

Абедзьве судовыя інстанцыі не зацікавіла таксама тое, хто ў райвыканкаме праз суткі пасля ыдачы дазволу на пікет і за тры дні да яго правядзення раптам убачыў экстрэмізм.

Праваабаронцы Тамара Шчапёткіна, Сяржук Русецкі і грамадская актывістка Таццяна Тарасевіч намераны працягваць абскарджанне ў нацыянальных судовых інстанцыях, пры неабходнасці – і ў Камітэце па правах чалавека ААН.

http://spring96.org/be/news/72071

## Папярэджанне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі Аляксандр Кузьмін з Белаазёрска абскарджвае ў Вярхоўным судзе

Грамадскі актывіст Аляксандр Кузьмін з Белаазёрска пасля атрымання адмовы ў задавальненні скаргі адносна адмовы пісьмовага папярэджання за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі “Гавары праўду”з Брэсцкага абласнога суда, падаў скаргу ў Вярхоўны суд. Пісьмовае папярэджанне актывіст атрымаў у сакавіку 2013 г. ад пракурора Бярозаўскага раёна.

Прыцягнуць Кузьміна да крымінальнай адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі прасіў у сваім прадстаўленні супрацоўнікам Бярозаўскага РАУС цяпер ужо былы старшыня Белаазёрскага гарвыканкама Вячаслаў Дамброўскі. Бярозаўская міліцыя ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіла, не ўбачыўшы ў грамадскіх кампаніях, якія праводзіліся прыхільнікамі “Гавары праўду”, прыкмет арганізацыі. А.Кузьмін разам з белаазёрскімі актывістамі разгарнуў кампанію за паляпшэнне сацыяльна-бытавых умоваў гараджан: збіралі подпісы за рамонт дарог, рамонт пад’ездаў, упарадкаванне двароў і інш.

Разам з тым, пракуратура Бярозаўскага раёна прыкметы арганізацыі ўбачыла і вынесла Аляксандру Кузьміну папярэджанне па артыкуле 193.1 Крымінальнага кодэкса.

Кузьмін прайшоў усе судовыя і пракурорскія інстанцыі ў Брэсцкай вобласці з мэтай адмены папярэджання, але безвынікова.

http://spring96.org/be/news/72109

## Бяляцкі: «Успаміны пра турму я буду пісаць на волі, а ў турме пісаў пра волю»

У Менску прэзэнтавалі кнігу Алеся Бяляцкага «**Іртутнае срэбра жыцьця. Нататкі праваабаронцы**».

На прэзэнтацыі сярод іншых прысутнічалі колішнія палітвязьні, грамадзкія дзеячы й літаратары Ўладімер Някляеў, Павал Севярынец і Зьміцер Дашкевіч.

Пасьля зьняволеньняў за Плошчу-2010 Някляеў напісаў «Лісты да Волі» , Севярынец — «Беларускую глыбіню», а Дашкевіч —




«Чарвяка».

Алясь Бяляцкі прызнаўся: ён узрушаны, бо за тыя гады, пакуль быў за кратамі, іншыя палітвязьні напісалі выдатныя кнігі.

Бяляцкі пажартаваў, што трэба пасадзіць увесь Саюз пісьменьнікаў, каб у беларускай літаратуры зьявіліся новыя цікавыя творы.

У аснову кнігі «Іртутнае срэбра жыцьця. Нататкі праваабаронцы» пакладзеныя лісты, якія праваабаронца дасылаў на волю сваім сябрам і калегам.

Бяляцкі апісвае ня ўласныя турэмныя прыгоды, а тыя падзеі, якія папарэднічалі ягонаму арышту.

Кніга падзеленыя на тры часткі:

1. эсэ Алеся Бяляцкага;

2. «Сустрэчы салідарнасьці» — апісаньні паездак аўтара ў якасьці віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека;

3. апошняе слова праваабаронцы ў судзе.

Рэдактары і ўкладальнікі кнігі **Алена Лапцёнак і Ірына Пракопчык** распавялі, што праца над ёй адбывалася дыстанцыйна і ў рэжыме ліставаньня.

Аўтару і ўкладальніцам даводзілася абыходзіць турэмную цэнзуру. Бяляцкі нават згадаў, як цэнзары вярталі яму лісты і як ён перапісваў тэксты.

Успаміны пра турму я буду пісаць на волі, а ў турме пісаў пра волю

«Успаміны пра турму я буду пісаць на волі, а ў турме пісаў пра волю, пра апошнія паўгоду свайго вольнага жыцьця. Кніжка цалкам рабілася безь мяне, і яна зьяўляецца такім калектыўным дзіцём. Некалькі чалавек расшыфроўвалі мае лісты, бо маю паганы почырк, таксама была асобная эпапэя з выданьнем кніжкі: яна крыху затрымалася. І вось я выйшаў нечакана перад самай прэзэнтацыяй, якая плянавалася безь мяне, таму тут усё вельмі жыва. І сама назва кніжкі „Іртутнае срэбра жыцьця“, мабыць, перадае і небясьпеку, і прыцягальнасьць, і жывасьць нашага жыцьця, якое зьмяняецца кожную хвіліну», — заявіў Бяляцкі ў інтэрвію Радыё Свабода.

На заднім фарзацы кнігі «Іртутнае срэбра жыцьця. Нататкі праваабаронцы» напісана, што на момант яе выхаду аўтар адбывае пакараньне ў бабруйскай папраўчай калёніі.




Алесь Бяляцкі выйшаў на волю 21 чэрвеня 2014 году

**Даведка Радыё Свабода — Алесь Бяляцкі**

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 году турмы ў лістападзе 2011-га. Яго пакаралі за нясплату падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць.

Падставай для крымінальнага перасьледу Бяляцкага стала інфармацыя пра банкаўскія рахункі, якую перадалі афіцыйнаму

Менску Літва і Польшча.

Краіны Эўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічылі Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным.

У 2012 і 2013 гадах Алесь Бяляцкі быў намінаваны на Нобэлеўскую прэмію міру.

http://www.svaboda.org/content/article/25466547.html

## Чарговы нумар бюлетэня “Брэсцкае права” з’явіўся ў Бярозаўскім і Івацэвіцкім раёнах




Жыхары гэтых раёнаў з задавальненнем азнаёміліся з новым выданнем. Бюлетэнь “Брэсцкае права” дапаможа грамадзянам атрымаць адказы на юрыдычныя пытанні. Па словах сябра БХК Валянціна Лазарэнкава, ужо шмат пытанняў паступіла ад чытачоў “Брэсцкага права” па лініі ЖКГ. Гэта асабліва балючая тэма для насельніцтва, калі дабіцца справядлівасці проста немагчыма, калі не ведаеш законаў. Жыхарам Бярозаўскага раёна, якія да гэтага часу змагаюцца за змяншэнне радыуса каля дзяржаўнай свінафермы, дзе можна ўтрымліваць свіней, таксама “Брэсцкае права” дасць адказы, кажа Валянцін Лазарэнкаў.

Бюлетэнь скіраваны на паляпшэнне сітуацыі ў беларускім грамадстве наконт ведання і абароны сваіх правоў, кажа Валянцін Лазарэнкаў. Заснавальнік выдання -- Беларускі Хельсінскі камітэт, адказны за выпуск бюлетэня -- Ігар Маслоўскі. “Брэсцка права” выходзіць раз у месяц накладам 299 асобнікаў.

http://spring96.org/be/news/72215

## Чарговая забарона пікету ў Бярозе

Бярозаўскім праваабаронцам чарговы раз забаранілі праводзіць

27 ліпеня пікет, прымеркаваны да 24 угодкаў абвяшчэння суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. Прычына адмовы: не ў адзін дзень з заявай на пікет прынеслі дамовы з арганізацыямі на абслугоўванне пікету. Гэта чарговая надуманая прычына, але замацаваная пастановай райвыканкама, кажа адзін з заяўнікаў пікету праваабаронца Сяржук Русецкі:

- Усе папярэднія разы ўлады, калі мы спрабавалі заключыць ці заключалі дамовы, не выкарыстоўвалі гэтую нагоду. Наадварот, калі адмова давалася пазней, чым за 5 дзён да правядзення пікету, сцвярджалі, што яны да апошняга чакалі, што мы данясём гэтыя дамовы.

У пікеце меркаваўся ўдзел 10 чалавек. Мэта пікету: нагадаць жыхарам Бярозы пра 27 ліпеня, выказаць публічны пратэст наконт размяшчэння расейскіх вайсковых базаў у Беларусі і нагадаць пра наяўнасць палітвязняў.

За апошнія 17 гадоў бярозаўскія чыноўнікі ні разу не дазволілі дэмакратычнай грамадскасці правесці масавыя мерапрыемствы. Затое праўладным арганізацыям праблем з гэтым няма і нават аказваюць фінансавую дапамогу.

http://www.racyja.com/uncategorized/chargovaya-admova-piketu-u-byaroze/

## Улады 12 гадоў адмаўляюцца прызнаць генерала Захаранку памерлым



Суд адмаўляецца пачынаць цывільны працэс аб прызнанні выкрадзенага генерала памерлым.

Пра гэта сайту charter97.org паведаміў кіраўнік «Прававой дапамогі насельніцтву», былы следчы пракуратуры Алег Воўчак.

«Учора я паслаў заяву дачкі Юрыя Захаранкі Алены ў суд Кастрычніцкага раёна Менска. Вось ужо 12 гадоў суд зацягвае працэс прызнання генерала Захаранкі памерлым. Ніякай інфармацыі нам не

паведамляюць, цывільны працэс аб прызнанні яго памерлым дагэтуль не пачаты, хоць паводле закону ўлады павінны былі зрабіць гэта яшчэ 12 гадоў таму - у 2002 годзе. На 5 чэрвеня было прызначанае слуханне ў гэтай справе, але потым усё імкліва памянялася. Пры гэтым заяўнікаў не ставілі ў вядомасць. У сувязі з гэтым Алена Захаранка і звярнулася з заявай, каб усё высветліць», - распавёў юрыст.

Праваабаронца дадаў, што ён таксама атрымаў адмову са Следчага камітэта аб прадаўжэнні тэрміну папярэдняга расследавання аб знікненні Юрыя Захаранкі да 24 верасня 2014 года.

«Гэта апошні тэрмін падаўжэння, бо паводле дзейнага заканадаўства ўлады будуць вымушаныя закрыць справу праз тэрмін пазоўнай даўнасці. Таксама больш за месяц генеральная пракуратура не дае нам адказу, чаму не хоча прызнаць маці генерала пацярпелай у справе, бо закон не забараняе гэтага», - адзначыў Алег Воўчак.

Нагадаем, генерал Юры Захаранка бясследна знік 7 траўня 1999 года. Паводле афіцыйнай версіі, гэта здарылася ўвечары ў раёне вуліцы Жукоўскага ў Менску, калі ён быў выкрадзены з ужываннем гвалту «неўстаноўленымі асобамі» і вывезены на легкавым аўтамабілі ў невядомым кірунку. Паводле факту знікнення экс-міністра ўнутраных спраў крымінальная справа была распачатая толькі 17 верасня 1999 года паводле прыкмет злачынства, прадугледжанага артыкулам 101 Крымінальнага кодэкса. Сведкі выкрадання, якія былі знойдзеныя не следчымі органамі, а грамадскай камісіяй пошуку зніклага генерала, сцвярджаюць, што Захаранка быў гвалтоўна вывезены некалькімі мужчынамі.

http://charter97.org/be/news/2014/7/25/108451/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»